наша
# свабода

№9 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

24 САКАВІКА 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Марш Волі – шлях у Еўропу

**Воля — такая якасць жыцця, якую найперш намагаюцца адняць у народа ці чалавека і якую без змагання не вяртаюць. Уся найноўшая гісторыя Беларусі — сведчанне гэтай адвечнай ісціны. Абвяшчэнне незалежнай Беларусі 25 сакавіка 1918 года было актам выратавання народа ў варунках бальшавіцкай здрады і германскай акупацыі. Палітычнае ўзнікненне Беларускай Народнай Рэспублікі разбурыла бастыён антыбеларускай імперскай ідэалогіі. Менавіта з гэтае прычыны наш Дзень Волі на працягу ўсяго прамінулага часу выклікаў нянавісць уладаў — і крамлёўскіх, і пастаўленых тымі мясцовых.**




Усімі няпраўдамі ўлады намагаюцца паменшыць значнасць гэтай падзеі, сказіць яе змест. Гэты змест просты — воля не стасуецца з таталітарызмам. Чалавек без волі — рабочая сіла, якая абслугоўвае ўладарны пласт грамадства. Імкненне народа да волі пагражае гэтым пластам стратамі палітычнага і сацыяльнага камфорту, а дзяржаўным суседзям — неабходнасцю будаваць свае адносіны на падмурку павагі, як будуе іх сёння з Беларуссю Польшча ў адрозненне ад Расіі.

Ад I Усебеларускага з'езда (снежань 1917) да абвяшчэння незалежнай БНР у сакавіку 1918 года прайшло менш трох месяцаў. Варта прыгадаць, што гэта быў час Брэсцкіх перамоваў, дзе наш лёс вырашаўся без нас. Назваўшы Беларусь часткай Расійскай Савецкай Рэспублікі, ленінскі ўрад аддаў гэтую частку на рабаванне немцам у якасці кантрыбуцыі. Людзі, якія не пагадзіліся з такім стаўленнем да сябе, якія мелі высокае пачуццё годнасці і лічылі, што пачуццё годнасці ўласцівае беларускаму народу, потым усе былі знішчаныя карнымі органамі савецкага таталітарызму. Дзень Волі — гэта і памяць пра ахвяры, аддадзеныя народам на алтар незалежнасці.

Марш у Дзень Волі — гэта шлях у будучыню. Толькі вольныя людзі могуць вырашаць свой лёс. Нявольным, далучаным ці прылучаным, лёс абіраюць іншыя. Для таго, хто не жадае пражыць сваё жыццё далучэнцам з нахіленай галавой, Дзень Волі — свята годнасці. Ён праходзіць пад знакам адмовы мадэрнізаванай імперыі, гнёту таталітарызму, ганебнасці правінцыйнага стану дзяржавы. Наш урад жыве эгаістычнымі інтарэсамі асабістай удачы на ступенях палітычнай кар'еры, дзеля чаго не шкадуе нават суверэнітэт краіны. Людзі, якія дбаюць пра стварэнне нейкай панславянскай дзяржавы, пра нашую зямлю не дбаюць. Але гэта тут і цяпер адны пакутуюць ад Чарнобыля, іншыя ад беспрацоўя, іншыя ад бесперспектыўнасці жыцця пры такім ладзе. Мы здолеем перамагчы, калі будзем аб'яднаныя ўзнёслым жаданнем мець дзяржаву для людзей, а не існаваць у дзяржаве для ўладалюбцаў. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Жудаснае злачынства адбылося ў Мінску.** Як паведаміў прэс-цэнтр міністэрства ўнутраных справаў, вечарам у сераду прыкладна а 20-й гадзіне ў адной з кватэраў на Партызанскім праспекце было ўчынена забойства пяцярых грамадзянаў Азербайджана, якія займаліся тут гандлем. Двое мужчын, дзве жанчыны і малая дзяўчынка былі забітыя з асаблівай жорсткасцю. Міліцыя маркуе, што злачынства адбылося «на глебе маёмасных прэтэнзіяў паміж гандлюючымі групамі».

■ **Новыя тарыфы за паслугі сувязі пачалі свае дзеянне з 22 сакавіка.** У сярэднім кошты падвысіліся на 10-15%. Цяпер за 1 хвіліну размовы ў межах горада трэба будзе плаціць 1 рубель (было 0,85 р.) плюс 212 рублёў у месяц – абаненцкая плата. За тэлефонныя перамовы ў межах вобласці трэба будзе плаціць 3,4 рублі за хвіліну, у межах рэспублікі – 6,8 рублёў. Падаражалі і міжнародныя размовы: асноўны тарыф для Расіі цяпер складае 192 рублі за хвіліну, ільготны (з 21:00 да 9:00, а таксама ў выхадныя і святочныя дні) – 128 р. Званок на Украіну будзе каштаваць 162 рублі за хвіліну (108 – ільготны тарыф), у краіны Балтыі і Польшчу – 201 (134) р., у Германію – 231 (154) р., у ЗША – 716 (558) р.

■ **Беларускія прадпрыемствы завінаваціліся замежным партнёрам утрая больш, чым замежнікі вінаватыя беларусам.** Як паведамляе агенцтва БелаПАН, агульная сума запазычанасці беларускіх прадпрыемстваў сягнула 329,5 мільярда рублёў. У сваю чаргу, замежныя прадпрыемствы вінаватыя нашым 106,4 мільярда рублёў. Ільвіная доля гэтых неплацяжоў прыпадае на гандаль з Расіяй.

■ **Гродзенскаму дзяржаўнаму медыцынскаму інстытуту прысвоены статус універсітэта, паведамляе агенцтва БелаПАН.** У ВНУ нямала было зроблена для ўдасканальвання працэсу навучання. Падчас атэстацыі гродзенскую ВНУ наведаў 131 эксперт з міністэрстваў адукацыі і аховы здароўя Беларусі. Яны станоўча ацанілі ўзровень выкладання і ведаў студэнтаў. Ананімнае анкетаванне паказала, што 85 працэнтаў студэнтаў задаволеныя ўзроўнем падрыхтоўкі.

## Эксперты з ААН падазраюць Беларусь у продажы зброі паўстанцам з Анголы

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Абвінавачванні ў падтрымцы ангольскіх сепаратыстаў з групоўкі УНІТА прад'яўленыя экспертамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў таксама ўрадам Балгарыі, Украіны і Расіі. За руку схапілі пакуль толькі Балгарыю. Урад гэтай краіны афіцыйна прызнаў, што ў 1997-1998 гадах прадаваў у Тога зброю, якая магла трапіць у Анголу. Павініліся балгары і ў тым, што на іхнай тэрыторыі абучаліся некалькі дзесяткаў унітаўскіх сепаратыстаў. Адносна другіх краінаў пакуль гаворка ідзе толькі пра падазрэнні, развеяць якія можа спецыяльнае расследаванне. Цікава, аднак, што калі Балгарыя і нават Украіна спрыяюць правядзенню такога расследавання, то Расія і Беларусь, як адзначаюць самі эксперты, «умовы празрыстасці не ствараюць».

МЗС Беларусі, аднак, з гэтымі прэтэнзіямі не згодны. Прэс-сакратар міністэрства замежных спраў Мікалай Барысевіч прызнае, што ў Мінск наведваўся эксперт ААН, якога падрабязна пазнаёмілі з парадкам экспартнага кантролю ў Беларусі, але ніякіх нараканняў у аанаўца быццам бы не было. Тое самае, дарэчы, паводле расійскай прэсы, заяўляюць і ў Маскве.

Між тым факт застаецца фактам. Ангольскія сепаратысты з УНІТА «мочаць» сваіх жа суайчыннікаў з савецкіх установак «Град», ды выкарыстоўваюць іншую зброю, зробленую на абшарах былога СССР. Прычым зробленую ў нядаўнія часы, сцвярджаюць у ААН. У гэтай арганізацыі папярэджваюць, што ўстаноўлены факт парушэння эмбарга на пастаўку зброі ў зону канфлікту можа мець для парушальніка палітычныя і эканамічныя наступствы. ■

## Дзень Волі мусіць прайсці мірна

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Канчаткова вырашылі пачаць акцыю Дзень Волі на сталічнай плошчы імя Якуба Коласа арганізатары гэтага мерапрыемства. Нязменнымі пакінутыя таксама дата і час збору – 12 гадзінаў 25 сакавіка.

Такія рашэнні былі прынятыя на апошнім аргкамітэце па святкаванні Дня Волі 21 сакавіка. Рашэнне Мінгарвыканкама аб забароне шэсця і дазволе толькі мітынгу прысутныя палічылі цалкам незаконным. Нагадаем, скарга на яго хутка мусіць разглядацца ў Ленінскім раённым судзе.

Прынятыя таксама вельмі істотныя рашэнні аб тым, што акцыя мусіць прайсці годна, з працяглым шэсцем і мітынгам. Таксама арганізатары заявілі аб яе мірным характары і паабяцалі прыкласці ўсе намаганні для прадухілення магчымых сутычак дэманстрантаў з міліцыяй.

Па прапанове намесніка старшыні БНФ Юрыя Хадыкі ва ўсе СМІ будзе адпраўлены адкрыты ліст да грамадзяніна Лукашэнкі, дзе ён будзе запрошаны на плошчу Бангалор для выступлення на народным мітынгу. ■

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 910

## Прыбыў «Кур'ер»

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

У кіёсках «Саюздруку» з'явіўся першы нумар незалежнага часопіса «Кур'ер». Яго заснавальнік і галоўны рэдактар – Ігар Гермянчук.

Каб ажыццявіць гэты праект, Ігару Герменчуку спатрэбілася больш года. Галоўнай перашкодай на шляху да чытачоў сталі хітрыкі чыноўнікаў. Часопіс мог выйсці ўжо восенню мінулага года, аднак Дзяржкамітэт па друку адмяніў рэгістрацыю «Кур'ера». І ўсё ж Гермянчук з аднаўленнем рэгістрацыі справіўся.

Часопіс мае 48 старонак, каляровую вокладку, цікавыя тэксты, адрозніваецца ўдалым дызайнам. Як адзначае Гермянчук, ён уварваўся ў зусім вольную нішу – падобных выданняў у Беларусі пакуль не было. Ці замацуецца «Кур'ер» у гэтай нішы – пакажа час. Нам гэтага вельмі хацелася б. Зазначым, спасылаючыся на знаёмых працаўцоў «Саюздруку», што першы дзень продажу «Кур'ера» быў вельмі для яго ўдалым. ■

## Паважаныя чытачы!

### Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА абвяшчае падпіску на II квартал 2000 г.

Вы зможаце атрымоўваць нашу газету з красавіка 2000 г., калі пералічыце паштовым пераводам падпісную суму на адзін (675 руб.), два (1350 руб.) або тры (2025 руб.) месяцы на разліковы рахунак рэдакцыі: **3012205160015 у аддзяленні «Цэнтральнае» ААТ «Белбізнесбанк» г.Мінска, код 493. Адрас: 220123, г.Мінск, п/с 103. Атрымальнік плацяжу: Рэдакцыя газеты «Наша Свабода».**

**У графе «для пісьмовага паведамлення» адзначце свой паштовы адрас, укажыце, з якога месяца і на які тэрмін Вы афармляеце падпіску.**

Паштовы перавод, які можна зрабіць у любым аддзяленні сувязі краіны ў любы час, забяспечыць вам дастаўку газеты з пачатку наступнага каляндарнага месяца.

Падпісчыкам газеты НАВІНЫ, што прыслалі ў рэдакцыю копіі сваіх падпісных купонаў, якія аформілі падпіску на 2-ое паўгоддзе 1999 г. з ліпеня, жніўня або верасня 1999 г., газета НАША СВАБОДА будзе дастаўляцца бясплатна. Рэдакцыя дзякуе ўсім, хто быў з намі гэтыя месяцы, за падтрымку і давер, заверае, што мы зробім усё, што ад нас залежыць, каб НАША СВАБОДА беспярэбойна і своечасова дастаўлялася як новым, так і сталым нашым падпісчыкам.

## БТ – «замініравалі»

Аляксей СТАЎСКІ

У аўторак, 21 сакавіка, будынак, у якім месціцца Беларускае тэлебачанне, дзве гадзіны абшукваўся на прадмет знаходжання ў ім выбуховага прыстасавання. Паведамленне аб гэтым зрабіў невядомы па адным з тэлефонаў БТ, але трывога аказалася дарэмнай.

Аматар тэлефонных жартаў расшукваецца міліцыяй. ■

## Народная Грамада збярэцца на з'езд у чэрвені

Рыгор БУЯН

**3–4 чэрвеня БСДП (Народная Грамада) збярэцца на IV з'езд партыі. Пытанні, якія выносяцца на яго разгляд, стандартныя ў такіх выпадках: справаздача кіраўніцтва за міжз'ездаўскі перыяд, выбары новага кіраўніцтва партыі, выпрацоўка стратэгіі і тактыкі ды ўнясенне зменаў у статут. Такое рашэнне прыняў 19 сакавіка Цэнтральны камітэт Народнай Грамады.**

Зрэшты, асноўным пытаннем на паседжанні ЦК сталі магчымыя перамовы з уладамі і адносіны да парламенцкіх выбараў. «Па такім заканадаўстве, якое прынятае ў Беларусі, мы не будзем удзельнічаць у выбарах», – адназначна заявіў старшыня партыі Мікола Статкевіч. Тым не менш Народная Грамада ўжо зараз рыхтуецца да выбараў, ствараючы пастаянна дзеючы выбарчы штаб. Гэтая структура найперш зоймецца аналізам выбарчага заканадаўства і вывучэннем праблемаў, якія нясуць з сабой выбары. Апрача таго, ЦК заявіў аб неабходнасці і надалей супрацоўнічаць з Каардынацыйнай радай дэмакратычных сілаў з пераўтварэннем яе ў перспектыве ў адзіны выбарчы блок.

ЦК пацвердзіў пазіцыю Кансультатыўнага савета палітычных партыяў у тым, што апазіцыя згодная ўдзельнічаць у перамовах, а не ў так званым «шырокім грамадска-палітычным дыялогу», прычым на прынцыпах і умовах, вызначаных летась пры пасрэдніцтве КНГ АБСЕ. «БСДП разглядае шырокі дыялог як магчымасць публічна – праз дзяржаўныя газеты, радыё, тэлебачанне, на мітынгах, дэманстрацыях і сходах – выказваць свае прапановы па вырашэнні праблемаў эканомікі, сацыяльнай абароны і аховы здароўя насельніцтва, развіцця культуры і адукацыі. БСДП праводзіць адрозненне паміж шырокім дыялогам і перамовамі, якія павінны весціся паміж выканаўчай уладай, апазіцыйнымі палітычнымі партыямі пры пасрэдніцтве АБСЕ», — гаворыцца ў спецыяльнай рэзалюцыі ЦК. У паседжаннях рабочай групы па правядзенні т.зв. «дыялогу» ад апазіцыі ўдзельнічаюць толькі эксперты.

На паседжанні ЦК выступіла экс-міністр працы Швецыі Май-Ліз Леф, якая адначасова прадстаўляе і Сацыял-дэмакратычную партыю Швецыі. Яна выказала салідарнасць з беларускімі сацыял-дэмакратамі і заявіла пра працяг супрацоўніцтва між дзвюма партыямі, якое будзе нарастаць. Спадарыня Леф сказала, што ў сярэдзіне траўня ў Мінск прыедзе дэлегацыя Сацыял-дэмакратычнай партыі Швецыі. ■

## Сацыял-дэмакраты Еўропы з'едуцца рушаць да нас

Рыгор БУЯН

**На 1 і 2 красавіка Мінск ператворыцца ў цэнтр еўрапейскага сацыял-дэмакратычнага руху. У гэтыя дні ў беларускую сталіцу з'едуцца дэлегацыі сацыял-дэмакратычных партыяў з усяе Еўропы на міжнародную канферэнцыю, арганізаваную Еўрапейскім форумам за дэмакратыю (гэта структура Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу, у які нядаўна прынятая БСДП (Народная Грамада). Асноўная тэма запланаванага мерапрыемства вызначаная наступным чынам: сацыял-дэмакратыя ва Усходняй Еўропе.**

У рамках канферэнцыі пройдзе паседжанне Усходнееўрапейскага сацыял-дэмакратычнага форуму, у які ўваходзяць прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Украіны, Казахстана, Грузіі, Арменіі і Балгарыі і які ўзначальвае старшыня БСДП (Народная Грамада) Мікола Статкевіч. Форум будзе надзвычай прадстаўнічым, удзельнічаць у ім, напрыклад, будуць кіраўнік Еўрапейскага форуму за дэмакратыю Коні Фрыдрыксан і былы прэм'ер-міністр Польшчы Уладзімір Цімашэвіч. Напачатку сацыял-дэмакраты з усходнееўрапейскіх краінаў раскажуць пра развіццё сацыял-дэмакратыі ў кожнай з краінаў, а пасля пяройдуць да абмеркавання галоўнага пытання. Прэзідэнт Усходнееўрапейскага сацыял-дэмакратычнага форуму М.Статкевіч сфармуляваў яго наступным чынам: «Выпрацоўка сацыял-дэмакратычнага падыходу да рэфармавання эканомікі пераходнага перыяду ў нашых умовах». «На жаль, – гаворыць М.Статкевіч, – сацыял-дэмакраты з краінаў СНД скарыстоўваюць вопыт, які напрацаваны ў Заходняй і Паўночнай Еўропе, але ж у нас ёсць свае асаблівасці. Там няма такога, што існуе планавая эканоміка з захаваннем нейкіх мінімальных сацыяльных гарантыяў. Шмат напрацавана ў гэтым плане ў Расіі, на Украіне. Справа ў тым, што многія сацыял-дэмакратычныя партыі, асабліва ў Расіі, называюць карлікамі з вялікімі галовамі – гэта раздробленыя, без рэальнай палітычнай сілы партыі, якія ў той жа час маюць цудоўную тэарэтычную базу. У нас назіраецца адваротная сітуацыя – Грамада з'яўляецца рэальнай сілай, але не мае дэталёвай тэарэтычнай прапрацоўкі».

Плануецца, што да Усходнееўрапейскага сацыял-дэмакратычнага форуму на канферэнцыі далучацца краіны Прыбалтыкі і Польшча. Праўда, невядома пакуль у якім статусе – як назіральнікі ці ў якасці ўдзельнікаў. ■

ФОТАФАКТ



● 21 сакавіка. Мінскі палац мастацтва. Перфоманс Кацярыны Крысцінінай. Вобразны свет мастака

## «35 сутак у кануры не зламалі мяне»

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Пасля трыццаці пяці сутак адміністратыўнага арышту быў адпушчаны на свабоду кіраўнік барысаўскага раённага аддзялення Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Аляксандр Абрамовіч.**

Такі працяглы тэрмін атрымаўся ў выніку сумавання трох адміністратыўных судзімасцяў, да якіх прыцягнулі Абрамовіча. Усе яны – за несанкцыяваныя пікетаванні ў цэнтры горада Барысава пад лозунгамі «Рукі прэч ад Чыгіра», «Дзе Захаранка і Ганчар?!», «Свабоду Чачні». Аб умовах, у якіх праходзіла адсідка, НАШАЙ СВАБОДЗЕ распавёў сам спадар Абрамовіч.

***– Аляксандр, чаму вы рашыліся менавіта на несанкцыяваныя пікетаванні?***

— Справа ў тым, што ў свой час, калі мы прасілі ў гарвыканкаме дазволу на пікет у цэнтры горада, нас адсылалі ледзь ці не ў лес. Пасля 20 ліпеня 1999 года прасіць дазвол у нелегітымнай улады стала абсурдам, і мы перасталі гэта рабіць. Зразумела, адразу ж пачаўся пераслед.

***– І вы ўсе 35 дзён вось так бязвылазна сядзелі ў камеры?***

– Не. За дзве гадзіны да таго як скончваўся чарговы тэрмін, мяне везлі на «варанку» дадому, дазвалялі памыцца, пераапрануцца і адпраўлялі назад у камеру.

***– Якія ўмовы ўтрымання ў барысаўскім ІЧС?***

– Жудасныя. Я зараз рыхтую ліст начальніку абласнога ўпраўлення ўнутраных справаў з мэтай паінфармаваць, што робіцца ў ягоным ведамстве. Бо гэта – натуральная канура: клапы, тараканы, блохі. У камерах брудна і гідка...

***– Я чуў, што вы амаль не атрымоўвалі прадуктовых перадачаў.***

– Гэта праўда. Толькі два разы іх зрабіў мне мой сябра Ігар Леднік, супрацоўнік БХК. Але ці з сваіх рэсурсаў, ці з рэсурсаў БХК ён браў грошы на перадачу, мне невядома. ■

## ЗША асуджаюць прыгавор, вынесены Андрэю Клімаву

**Вашынгтон, 21 сакавіка 2000 г.**

ЗША асуджаюць прыгавор па палітычна матываваных абвінавачваннях, вынесены Андрэю Клімаву, дэпутату Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання і вядомаму лідэру апазіцыі да рэжыму Лукашэнкі. Тое, як рэжым абыходзіўся са спадаром Клімавым, з самага пачатку было пародыяй на правасуддзе. Ён быў арыштаваны ў лютым 1998 года і 17 месяцаў знаходзіўся ў зняволенні без суда. 12 снежня мінулага года ён быў жорстка збіты турэмнай аховай. Толькі пасля ўмяшання Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ і пасла ЗША Спекхарда спадару Клімаву было дазволена атрымаць належную медыцынскую дапамогу.

Гэты прыгавор, а таксама паказны працэс над былым прэм'ер-міністрам Беларусі Міхаілам Чыгіром, што зараз працягваецца, забарона ўрада на правядзенне наступных дэманстрацыяў апазіцыі сведчаць пра далейшае адмаўленне ўладаў ад дыялогу і нежаданне ўсталяваць належны клімат для свабодных і справядлівых выбараў, якія ўрад плануе правесці ўвосень. Мы ізноў заклікаем беларускія ўлады ажыццявіць канкрэтныя крокі да сапраўднага дыялогу з дэмакратычнай апазіцыяй і прадэманстраваць большую павагу да фундаментальных правоў чалавека. Асабліва важна, каб улады захоўвалі правы людзей на свабоду сходаў і гарантавалі, што правядзенню шэсцяў апазіцыі, запланаваных на гэтую вясну, не будзе ствараца перашкодаў. Толькі праз такія намаганні Беларусь можа выйсці з існуючага канстытуцыйнага і палітычнага тупіка і завершыць міжнародную ізаляцыю, у якой яна апынулася з-за сваіх дзеянняў.

**Распаўсюджана Аддзелам інфармацыі, адукацыі і культуры амбасады ЗША ў Беларусі**

## «Справа Клімава» ўскладніць правядзенне «дыялогу»

Рыгор БУЯН

Місія АБСЕ выступіла з жорсткай заявай у сувязі з вынесеным прысудам дэпутату Вярхоўнага Савета 13-га склікання Андрэю Клімаву. Трэба нагадаць, што 17 сакавіка Ленінскі райсуд Мінска прыгаварыў А.Клімава да 6 гадоў пазбаўлення волі.

КНГ АБСЕ «у ходзе судовага разбіральніцтва адзначыла значную колькасць парушэнняў і хібаў, пра што былі паінфармаваныя адпаведныя органы». Менавіта таму місія ўплывовай еўрапейскай структуры называе прысуд Андрэю Клімаву пацверджаннем тэзісу «пра адсутнасць незалежнасці судовай улады ў Беларусі». Місія нагадала ўраду, што «справа Клімава» ў Еўропе будзе ўспрымацца «як яшчэ адзін прыклад палітычна матываваных прысудаў у краіне, якія патрабуюць перагляду».

«Прысуд, вынесены Андрэю Клімаву, значна ўскладніць перспектывы чакаемага грамадскага дыялогу па найбольш актуальных пытаннях жыцця краіны, у прыватнасці, пра ўмовы правядзення свабодных і справядлівых парламенцкіх выбараў у Беларусі». ■

## Польскія дэпутаты ў Мінску

Вольга АНЦЫПОВІЧ

З 22 па 25 сакавіка ў Беларусь па запрашэнні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» з азнаямленчым візітам прыбыла дэлегацыя дэпутатаў польскага Сейма з фракцыі «Выборчая Акцыя Салідарнасці». У праграме візіту запланаваныя сустрэчы з А.Лябедзькам, М.Статкевічам, С.Багданкевічам, З.Бандарэнкай, іншымі грамадскімі і палітычнымі дзеячамі беларускай дэмакратычнай апазіцыі, візіты ў абласныя гарады Беларусі, правядзенне адукацыйнага семінара для сябраў маладзёжных арганізацыяў сталіцы. Польскія госці збіраюцца 25 сакавіка прыняць удзел у акцыі, прысвечанай святкаванню Дня Волі, каб «поўнасцю зразумець тую атмасферу, якая звычайна пануе ў Мінску падчас правядзення масавых акцыяў, і выказаць сваю падтрымку здаровым сілам беларускага грамадства ў іх спробах змяніць сітуацыю». ■

## Адменены пастановы раённых судоў

Вольга АНЦЫПОВІЧ

Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь адмяніў пастановы судоў Савецкага і Партызанскага раёнаў горада Мінска аб прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці аднаго з заяўляльнікаў «Маршу Свабоды», прайшоўшага 17 кастрычніка мінулага году ў сталіцы Беларусі, дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання, сябра праваабарончага цэнтра «Вясна» Барыса Гюнтара і ўдзельніка вышэйназванай акцыі Аляксандра Шчурко.

Чатыры месяцы таму, згодна з рашэннем Савецкага раённага суда, Барыс Гюнтар быў падвергнуты адміністрацыйнаму арышту тэрмінам 15 сутак, а Аляксандр Шчурко быў вымушаны правесці ў зняволенні, паводле пастановы суда Партызанскага раёна, 5 сутак.

Пасля выхаду на волю і Гюнтар, і Шчурко падалі скаргі ў Мінскі гарадскі суд, але гэтая судовая інстанцыя не ўбачыла парушэнняў заканадаўства ў вядзенні іх справаў. А вось у пастанове Вярхоўнага суда адзначаецца, што падчас разгляду справаў Гюнтара і Шчурко былі дапушчаныя грубыя парушэнні. Так, у дачыненні да Гюнтара было парушанае яго права на абарону, бо адвакату было адмоўлена ў праве прысутнічаць у зале. А пры разглядзе справы Шчурко не вёўся пратакол судовага паседжання, хаця пры адмаўленні віны праваапарушальнікам і пры неабходнасці апытання сведкаў яго вядзенне абавязковае.

Цяпер абедзве справы накіраваныя на новы разгляд у папярэднія суды, толькі ўжо іншым суддзям. ■

## Абразліва для вернікаў

Святлана КУРС, БХК

У мінулую суботу, 18 сакавіка, а дзевятай гадзіне раніцы, у Брэсце супрацоўнікі Ленінскага РАУС уварваліся ў касцёл Уздзьвіжання Святога Крыжа і схапілі ксяндза Збігнева Караляка, заламаўшы яму рукі. Захоп адбываўся на вачах вернікаў. На сярэдзіне касцёла ксёндз папрасіў дазволу ўкленчыць, як гэтага патрабуюць хрысціянскія звычаі. Аднак міліцыянты павалаклі святара далей. Парафіяне, у тым ліку касцёльная служка спадарыня Уладыслава Чарвінская, абураныя блюзнерскімі і жорсткімі дзеяннямі, падалі пратэст начальніку Ленінскага РАУС сп. А.Касцючыку, а таксама старшыні Ленінскага райвыканкама Брэста і ў абласную Управу па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў. Гэтую справу ўзяў пад свой кантроль Беларускі Хельсінкскі камітэт. Пакуль невядома, якія абвінавачванні высунутыя супраць ксяндза Збігнева, аднак у кожным выпадку хамскія дзеянні міліцыянтаў, іхная непавага да пачуццяў вернікаў спрыяюць фармаванню рэзка адмоўнага іміджу міліцыі. ■

## Маладыя з БНФ збіраюцца рэгістравацца

Алесь ШМЯЛЁЎ

Рашэнне аб падачы дакументаў на рэгістрацыю ў Мінюсце было прынятае на апошняй Цэнтральнай Радзе маладзёжнай часткі БНФ. Рэгістравацца маладыя будуць пад назвай «Малады Фронт». Зрэшты, рашэнне было прынятае ў вялікіх спрэчках, бо амаль палова сябраў Рады была супраць рэгістрацыі ў цяперашніх палітычных умовах. Адзін з найбольш заўзятых прыхільнікаў рэгістрацыі Яўген Скочка заявіў літаральна наступнае: «Хопіць МФ прагібацца пад БНФ, трэба браць самастойнасць у свае рукі».

Трэба сказаць, што апошнім часам у структурах маладзёжнай часткі БНФ набірае моц канфлікт паміж дзвюма групоўкамі. Адна з іх, рэлігійна-артадаксальная, падтрымлівае цяперашняга старшыню Паўла Севярынца, другая, ліберальна-кансерватыўная, збіраецца вылучаць на ліпеньскім з'ездзе арганізацыі кандыдатуру новага старшыні. ■

# Ад Адама і Евы

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

## Як знайсці ў Беларусі людзей адказных?

Уявіце, як цяжка было б жыць, каб нельга было адказнасць за свае памылкі перакласці на чужыя плечы. А так, «кансерваторыяў мы не канчалі» і таму робім усё, як можам. Так, маўляў, наканавана нам былымі дрэннымі сацыяльнымі абставінамі, недахопамі выхавання ды не вельмі ўмелымі выхавацелямі. А таму ні ў чым не вінаватыя. Ні ў тым, што робіцца, ні ў тым, што не робіцца. Ці, як казаў адзін вядомы сучасны дзеяч, хацелі як лепш, а атрымалася як заўсёды.

## Каб стаць уровень з Богам

Тым не менш, чалавек істота творчая і дзейсная. Гэта праявілася яшчэ на пачатку біблейскай гісторыі, калі паміж ім і Богам не было ніякіх пасрэднікаў. Таму адказнасць за ўчынак трэба было несці самому. Ці вінаваціць Бога. Але ж гэта б значыла самому стаць Богам ці нават узвысіцца над ім. А гэта грэх. Тым не менш, Еве ўявілася, што Бог, які стварыў людзей падобнымі да сябе, ці памыляецца, ці нечага недагаворвае. Што мала быць падобнымі да Бога. І таму сатана, які падказаў, што, адкусіўшы ад забароненага плода, можна стаць уровень з Богам, толькі выканаў першы сацыяльны заказ. Пасля гэтага над усім пачало панаваць жаданне, і ўчынак (дзеянне) стаў фатальна непазбежным. Людзі саграшылі і былі пакараныя за гэта.

З тае пары чалавек у прынцыпе не змяніўся. Адкрыўшы цяжкім вопытам факт існавання свабоды волі для сябе, ён ведае і пра адказнасць за ўчынкі.Таму, як і біблейскім продкам, яму ўласцівы сумненні, ён прагне самасцвярджэння, перапоўнены жаданнямі і таму асуджаны рабіць учынкі. Так сцвярджаюць і вучоныя, і багасловы.

Але ж Бог не роўна дзеліць. Кажуць прыкладна так: калі ўсё чалавецтва параўнаць з велізарным кактусам, то на ўчынак здольныя толькі ягоныя шыпы. Шыпы, такім чынам, гэта асобы, якія знайшлі нейкую залатую сярэдзіну паміж учынкам і адказнасцю за яго. Гэта, так бы мовіць, асобы адказныя, але не ў сэнсе займаемай імі пасады, а ў сэнсе адказнасці перад іншымі за зробленае ці не зробленае імі.

Бывае, што нейкі чалавек выглядае на асобу, але па сутнасці асобай не з'яўляецца. Прыкладам, большасць кіраўнікоў нашых сельгаспрадпрыемстваў. На адказныя пасты іх назначаюць вышэйшыя інстанцыі. Ад іх адказных паводзінаў чакаюць не толькі інстанцыі, але падначаленыя. Але дарма. Няма ні ўчынкаў, ні адказнасці. Таму што для іх калгасы — гэта ідэальнае асяроддзе для існавання. Амаль як Эдэм для Адама і Евы. Але ж апошнія ў імя жадання пакінулі нават рай, а нашыя за калгас трымаюцца нават тады, калі ад яго застаецца адзін разбураны свіронак ды кантора пад шыльдай і чырвона-зялёным сцягам. У тым, што зрабілася, яны вінавацяць каго заўгодна, але толькі не сябе.

І што характэрна, ніхто не ўспрымае сітуацыю такой як яна ёсць. Наадварот, абсурд лічыцца цалкам нармальным. Прыкладам, Лінга, тады яшчэ старшыні ўрада, на адной з фермаў у Віцебскай вобласці частуюць гарбатай з яловых лапак. Аказваецца, гэты напой тут робяць і для кароў, і для саміх калгаснікаў. А «прэм'ер» усё гэта ўхваляе. Маўляў, нам бы, хлопцы, ноч прастаяць ды дзень пратрымацца. Яшчэ трошкі, і, здаецца, высокі госць замычыць. А за ім калгаснікі, галодны статак і ўся Вялікая Беларусь.

А з другога боку, кіраўнікоў калгасаў да пяці разоў на тыдзень выклікаюць на нарады, іх дзейнасць дзень і ноч кантралююць і правяраюць, дзень і ноч «накачваюць». Але зараз ужо пагражаюць не выключэннем з партыі, а турмой. Які чалавек гэта здольны трываць? Таму рэакцыя ва ўсіх амаль аднолькавая. Усе выконваюць (ці робяць выгляд) усе дырэктывы, і хоць трава не расці!



Выйсце ў іншым накірунку

## Няма больш кім кіраваць

Яна і не расце. Таму ўжо сёння скаціну няма чым карміць. А вясна сёлета не спяшаецца. Зразумела, што кіраўнікі гаспадарак — гэта крайнія асобы ў вертыкальнай структуры. За імі нікога няма. Няма таго калгасніка, для якога не тое што старшыня, а і брыгадзір з конюхам былі самымі вялікімі аўтарытэтамі. Бо яны маглі калгасніку нешта даць ці не, забараніць або дазволіць. Зараз нічога і ў нікога няма. Зарплату калгаснікам за мінулы год добра калі выдадуць напярэдадні пасяўной. Таму і кіраваць няма кім. Застаецца, як казаў Лукашэнка на нарадзе ў Магілёве, толькі раздзецца ды выходзіць працаваць. Самім і непасрэдна. Уяўляеце, які б гэта быў «сюрпрыз», калі б у нашых паўночных шыротах на палі для ўнясення гною выйшла армія напаўраздзетага чынавенства. Смех і гора.

Але ж пры любых абставінах адказныя ёсць. Праўда, адказнасць наступіць у будучым. І мо таму, дарэчы, сёлетні гаспадарчы год не пачаўся з традыцыйнай буйнай сельгаснарады, на якой звычайна Лукашэнка караў ды мілаваў, ды ставіў стратэгічныя задачы. Ніякіх падставаў для яе на гэты раз не было. Бо каго ўхваляць, калі кароў кормяць водараслямі, каго караць, калі так іх кормяць паўсюль. Усіх? Вось гэтыя «ўсе» і паспрабавалі перавесці стрэлкі на самага адказнага. Так ва ўрадзе з'явіўся пакет дакументаў, у якім абгрунтоўваецца неабходнасць тэрміновага рэфармавання сельскай гаспадаркі, якая зайшла ў тупік. А гэта значыць, што былая «генеральная лінія», якую ўхвалялі і ўсе разам і паасобку, была памылковай. Гэта значыць, што і самому «генералу» бракуе стратэгічных здольнасцяў.

Да таго ж і сам Лукашэнка засумняваўся. Бо валавы ўнутраны прадукт (сведчыць статыстыка) расце, фізічныя аб'ёмы вытворчасці павялічваюцца год ад года, а людзі трапляюць у нястачу. Чаму так? Чаму ні ўрад, ні кіраўніцтва не адказалі на гэтае пытанне? Як здаецца, пытанне трывіяльнае. На яго можа адказаць сярэдні студэнт-эканаміст трэцяга курса. Бо ён асоба не абцяжараная адказнасцю. І чым дакладней будзе яго адказ, тым лепшую адзнаку ён атрымае. А ўрад і кіраўніцтва больш заклапочаныя тым, каб спіхнуць адказнасць. На самы верх — смерці падобна, а больш некуды. Таму яны ці маўчаць, як партызан на допыце, ці распрацоўваюць версіі, як Штірліц у варожым логаве.

Просты ж люд усё разумее па-свойму, вельмі проста. Ён верыць тым, хто звяртаецца да яго на звыклай мове, хто здольны на скоры суд і царскую міласць, ён увогуле верыць тым, хто звяртаецца да яго за парадай і просіць у яго падтрымкі. Ён верыць тым, хто звяртаецца да яго мудрасці і просіць крышку пацярпець. І асабліва верыць тады, калі яму называюць персанальна адказных за галечу. Тады абвінавацца лёгка становіцца калі не Богам, дык кумірам.

Але вера не можа быць бясконцай. Заснаванае на цудзе, яна патрабуе такога ж цудоўнага пацверджання. А магчымасцяў тварыць цуды ўсё менш і менш. Бо яшчэ пяць гадоў таму можна было «адкручваць» цэны. Цяпер гэта гучыць як здзек. Можна было запускаць заводы, цяпер ад іх «запушчаных» няма ніякага плёну. Можна было абяцаць рэзкае паляпшэнне жыцця пасля аб'яднання з Расіяй, а сёння трэба абяцаць, што ніколі беларускія хлопцы не пойдуць ваяваць у Ічкерыю. А паляпшэння не будзе, бо «сюды грошы ніхто эшалонамі не павязе». Во, адкрыццё. Быццам людзі гэтага не ведаюць.

Безумоўна, людзі забываюцца пра нявыкананыя абяцанкі, бо інакш жыццё б стала невыносным. Але падман не можа быць бясконцым. Да таго ж, ім няма ніякай справы, што, згодна з статыстыкай, мы выйшлі ў лідэры па тэмпах росту. Куды важней тое, што часам няма чаго есці не толькі самому, а нават і кошку нечым карміць. Нельга пры такіх абставінах пачуваць сябе чалавекам. Будзь ты хоць конюхам, хоць галоўным хірургам. А ці можна лічыць сябе прэзідэнтам, абраным народам, з якога ніводзін не можа лічыць сябе за асобу?

Як нехта казаў, натоўп крычыць адным вялікім горлам, а есць тысячамі маленькімі ратамі. А натоўп крычыць больш за ўсё тады, калі ў іх няма чаго пакласці. І вельмі хутка вызначае: чаму ды хто павінны. Часцяком пры гэтым пападае крайнім, але ж у большасці тым, хто адказны. Хто браў на сябе ўсю адказнасць. Паралелі не праводзім, каб, крый Бог, нікога не пакрыўдзіць.

## Амаль па Сямёну Альтаву

Статыстыку ўвогуле называюць самай дакладнай з усіх ілжэнавук. У гэтай сваёй якасці яна саступае ці не адно прапагандзе. Але ж прапаганда і не прэтэндуе на тое, каб быць навукай. Дык што ж мы маем, згодна з статыстыкай? Па-першае, за два першыя месяцы бягучага года, у параўнанні з адпаведным перыядам года мінулага, мы маем большы на 7 працэнтаў валавы ўнутраны прадукт, прырост прамысловай прадукцыі на 8,6 працэнта, а тавараў народнага спажывання выраблена болей на 10,9 працэнта, а прамысловага асартыменту — нават на 14,3 працэнта. І, нягледзячы на тое, што рэалізацыя калгасамі малака і мяса значна скарацілася, вытворчасць харчовых тавараў значна ўзрасла.

Беларускае цуда. Так, амаль што па Альтаву. Рост прамысловасці вядзе да падзення прадукцыйнасці працы і рэальных заробкаў. Значнага прытоку інвестыцыяў не чакаецца, але з правядзеннем выбараў эканоміка ўступіць у стадыю стабілізацыі. Знешні гандаль павялічыць фізічныя аб'ёмы экспарту, але з улікам бартэрызацыі агульная карціна прыме абрысы таго месца, якім звычайна сядзяць. ■

# Ценишь волю — стань рядом!

Олег БАТУРИН,
ст.лейтенант милиции
Варшава

Уважаемые коллеги, офицеры милиции! Хочу поздравить Вас всех с самым главным праздником нашей родины — Днем Независимости! Верю, что придет день, когда понятие «по разные стороны баррикад» навечно отойдет в историю. По эти «разные стороны» стараются поставить всех нас Лукашенко и его приспешники. Стараются умышленно разделить белорусов на «националистов» и «славян»; журналистов — на «чэсных» и «нячэсных»; милицию на «правильную, которая с президентом» и «неправильную, которую купило НАТО», стравить милицию, армию и КГБ с народом.

Историю не повернуть вспять. Можно 80 лет вести войну со своим народом, раскулачивая, ссылая и уничтожая его. Но что такое 80 лет для истории? Сменилось только три поколения, и власть КПСС–НКВД–КГБ закончилась, а правители, которые издевались над людьми, вызывают презрение

Так будет и у нас! Вся разница в том, что власть Лукашенко рухнет гораздо раньше, на глазах у нашего поколения. Этот человек сам себя загнал в тупик. Его планы о господстве в России – Беларуси рухнули. Во всем цивилизованном мире его имя вызывает в лучшем случае сочувственную улыбку. Не будет вечно терпеть его и восточный сосед. России нужна стабильность, а такой политик, как Лукашенко, рейтинг РФ на международном уровне не подымет.

Я знаю, что белорусы никогда не простят Лукашенко того, что «размаўляць па-беларуску гэта значыць быць нацыяналістам». Причем заметьте, товарищи офицеры, что такая ситуация в бывшем СССР только у нас? Нам всем должно быть стыдно, что на Западе говорят про прибалтов — «это сильные нации, которые первыми сбросили ярмо коммунизма», про украинцев — «у них говорят по-украински почти всюду – этот народ, хоть сейчас у них и не сладко, выстоит и победит», про грузин — «они готовы сидеть без света, но независимость не сдадут», а про белорусов, в лучшем случае, говорят — «ну это народ такой, они терпеливые, «памяркоўныя», их пожалеть надо». Мне стыдно, что благодаря нашему общему молчаливому согласию уничтожают наш язык, отбирают наши святыни, издеваются над всем белорусским. Как следствие, с нашей молчаливой поддержки, «исчезли» Захаренко, Гончар, таинственно умер Карпенко, в тюрьме Климов, под судом Чигирь, стряпаются уголовные дела «за хулиганство на митингах». Когда же мы все, товарищи офицеры, проснемся и перестанем слепо служить режиму? Тоталитарную машину легче остановить, пока она еще не набрала кровавые обороты.

Я искренне радуюсь, что «Марш Свободы-2» прошел без провокаций и столкновений. Лукашенко увидел силу и пока, как всякий боязливый человек, выжидает, что будет дальше. А дальше будет то, что этот поток людей, настоящих патриотов, уже не остановить! Останавливать его будет некому. Ведь и мы, милиция, и ОМОН, и внутренние войска, и вооруженные силы никогда не будем стрелять в свой народ, чтобы продлить политическую жизнь узурпатора.

Страны Запада помогают нам, но никто за нас, белорусов, не сделает нашу нелегкую работу. Нам предстоит построить сильную и независимую страну, восстановить экономику и культуру. А охранять покой страны, уничтожать преступность, восстанавливать закон и порядок предстоит нам – национальной милиции независимой Беларуси!

**Жыве вечна Беларусь!**

# Беларусь хвалюе чэшскіх сенатараў не менш за Чачню

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Камітэт міжнародных справаў, абароны і бяспекі Сената Чэшскай Рэспублікі правёў слуханні, прысвечаныя сітуацыі ў Беларусі. Падставай для слуханняў сталі звароты чэшскіх грамадскіх арганізацыяў ды іншыя сігналы пра недэмакратычныя паводзіны ўладаў Беларусі, адпачатку паведаміў кіраўнік сенацкага камітэта Міхал Жантоўскі. Ён жа спаслаўся і на штогадовую справаздачу Дзярждэпартамента ЗША, у якой сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі атрымала вельмі негатыўную адзнаку. Гэтая тэма — правы чалавека — і стала галоўным аб'ектам увагі падчас слуханняў.

Агульнай аказалася заклапочанасць тым, якую тэндэнцыю дэманструе Беларусь на працягу апошніх гадоў. Усе без выключэння выступоўцы адзначалі пагаршэнне сітуацыі з правамі чалавека і ў якасці прыкладу прыводзілі факты знікнення палітычных дзеячаў, пераслед удзельнікаў мірных акцыяў пратэсту, павелічэнне ціску на недзяржаўную прэсу і няўрадавыя арганізацыі. «У мінулым годзе мы назіралі ўзмацненне рэпрэсіяў супраць грамадзянскай супольнасці ў Беларусі», – адзначала, у прыватнасці, прадстаўніца праваабарончай арганізацыі *Human Rights Watch* Холі Картнер. Незалежныя чэшскія наглядальнікі прытрымліваліся аналагічных высноваў. У тым ліку прадстаўнік чэшскага МЗС Марцін Повейшыл не ўтрымаўся ад заўвагаў у бок беларускіх рэаліяў. У прыватнасці, ён выказаў засцярогу новым выбарчым законам і заявіў, што выбары паводле такога закона могуць быць прызнанымі з цяжкасцю. Спадар Повейшыл падкрэсліў, што ў інтарэсах Чэхіі захаваць Беларусь у межах еўрапейскай супольнасці.

Улічваючы персанальны склад беларускага кіраўніцтва, зрабіць гэта будзе вельмі цяжка, нават немагчыма, падкрэслівалі некаторыя ўдзельнікі дыскусіі. У тым ліку прагучала і меркаванне, што сітуацыя ў Беларусі не менш небяспечная для міру ў Еўропе, чымсьці ў Югаславіі ці нават Чачні. Занепакоенасць чэшскіх сенатараў выклікала таксама тэма магчымага паглынання Беларусі Расіяй у выніку так званага аб'яднання. Асабліва непакоіць чэхаў, што ў выніку на беларускай тэрыторыі зноў можа аказацца ядзерная зброя.

Афіцыйная Беларусь на слуханнях была прадстаўленая першым сакратаром беларускай амбасады Васілём Курловічам. Той аднак быў «дыскрымінаваны» па моўнай прыкмеце. Дыпламат пачаў адказваць на крытыку, але па-расійску, і тады старшыня паседжання, спасылаючыся на цяжкасці разумення гэтай мовы прысутнымі, папрасіў беларуса альбо перайсці на чэшскую, альбо запрасіць перакладчыка. Ні першага, ні другога наш дыпламат зрабіць не здолеў.

Паведамляецца, што па выніках слуханняў чэшскі Сенат прыме афіцыйнае рашэнне ў канцы сакавіка. Незалежныя наглядальнікі мяркуюць, што гэта будзе даволі жорсткая пастанова, якая павінна ўскладніць стасункі чэшскага ўрада з беларускім афіцыйным кіраўніцтвам. ■

